# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 24 (1007) ГОД XX 15 ЧЭРВЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.





*Зноўку не бачыў: вырасла жыта*
*І каласіцца, красуе, нібыта*
*І не кусцілася, не выплывала, —*
*Проста адразу закрасавала.*

*Проста адразу... На дзіва проста!..*
*Не прыкмячаю цяжкасцей росту,*
*Штосьці губляю — за зернем зерне...*
*А хто яго мне падыме, верне?..*

*Цяжка ўздыхаю ў стоме вячэрняй:*
*З рук не маіх спее жытняе зерне!..*

**Алег Лойка**

# ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ ПАРТЫІ...

Гэтыя словы даходзяць да нас амаль кожны дзень. Асабліва ў апошнія месяцы, калі распачалася ў партыйных радах падрыхтоўка да чарговага, ужо **сёмага** з'езду партыі, калі праводзіцца абмен партыйных білетаў, калі па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам партыі ажыццяўляецца ў нашай краіне вялікая справа: перабудова адміністрацыйнага апарату, каб дзяржаўную ўладу наблізіць да насельніцтва.

Атрымаўшы з рук шахцёраў шахты „Сасновец" свой новы партыйны білет, **Эдвард Герэк** сказаў:

*„Партбілет з'яўляецца сімвалам таго, што адзіночнае, асабістае, што запісана ў аўтабіяграфіі кожнага члена партыі, і таго, што ёсць супольным у іх паставе і дзейнасці. Быць камуністам — гэта свядомы ідэйны і маральны выбар, гэта рашэнне на ўсё жыццё, за якое цэлым жыццём нясецца адказнасць".*

Няма тут і намёку на якія-колеч прывілеі. Затое адчуваецца моцны націск на абавязкі. Абавязкі не з прымусу, а добраахвотныя, з патрэбы сэрца, з унутранай патрэбы грамадскай дзейнасці.

Калі на Бельшчыне ранняй вясной гэтага года склады былі запоўнены мінеральнымі ўгнаеннямі, а сяляне не спяшаліся з іх купляй, партыйнае кіраўніцтва звярнулася да членаў первічных вясковых арганізацый. І... гэта дапамагло. Прыклад партыйных хлебаробаў падзейнічаў на іх суседзяў і вітамін ураджайнасці хутчэй чым раней апынуўся там, дзе яму і быць — на сялянскіх палях.

У вёсцы Буйнова (гміна Бранск) цяжка было па выбаістай, раскіслай дарозе дабрацца да ПКС-у, які адкрывае там доступ у шырокі свет. У гмінным бюджэце не хапіла грошай на гэтую дарогу. Гаварылі, каб чакала сваёй чаргі. А ездзіць трэба, ды не толькі вазамі з „аўсяным" рухавіком, а ўсё часцей на ўласных матацыклах і аўтамабілях. Каму хочацца скакаць па калдобінах, як у пекле на чортавых вілах?

Сакратар гміннага камітэта ПАРП у Бранску **Анатоль Кубаеўскі** супольна з начальнікам Бранскай гміны выступілі з прапановай, каб гэтую дарогу збудаваць грамадскім чынам. Іх прапанова не асталася без водгуку. Трэба было толькі адпаведна накіраваць і арганізаваць натуральную людскую актыўнасць. Буйноўцы пабудавалі сабе дарогу, жыхары Бранска грамадскім чынам дапамаглі паставіць прыгожы прыпынак на лініі ПКС-у.

Ды не толькі ў Бранску. Па-суседску, у гміне Боцькі, дзе сакратаром гміннага камітэта з'яўляецца **Віталі Леўчук**, а гміну ўзначальвае Ян Дзем'янюк, дзе можна сустрэць такіх добрых грамадскіх дзеячоў, як **Зінаіда Купрыянюк, мясцовы лекар,** таксама можна знайсці шмат прыкладаў грамадскай актыўнасці насельніцтва, кіраванага мясцовымі партыйнымі арганізацыямі.

(Працяг на стар. 4)



## "БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"

*Удзельнік сёлетняга цэнтральнага агляду жаночы калектыў з Беластока ў складзе: Аля Гаўрылюк, Зіна Гаўрылюк, Люба Гаўрылюк, Яўгенія Ігнацюк, Вера Міхалюк, Валя Шуста і Тамара Шуста.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*






ЧАМУ ДЗІЦЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

# ПРЫЧЫНА? САМАПАГАРДА!

Чытаючы артыкул Мікалая Гайдука „У чым прычына?", змешчаны ў папярэднім нумары „Нівы", думалася: якая супярэчлівасць, парадокс! Менавіта, чым лепшыя ўмовы навучання беларускай мовы ў школах, тым горш?!

Гайдук, з адчувальнай палёгкай, папракае кіруючыя органы Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў тым, што ў апошнія гады не рэалізавалі яны палажэння Статута, у якім ідзе гутарка аб імкненні да развіцця беларускага школьніцтва...

*У чым прычына?*

Пазнанне адбываецца праз пачуцці, гаварылі выдатныя педагогі, практыкі і тэарэтыкі. Якія ж пачуцці да беларускай мовы і культуры прывівае настаўнік, якому яна — абыякава?! А такіх у нас, на жаль, пераважная большасць. Скажу ясней: рэдкасцю з'яўляюцца тыя, якія адчуваюць сябе б е л а р у с к і м і інтэлігентамі ва ўласным, штодзённым побыце. Не ў трыбуннае свята... Гэта так!

Знамянальнае сялянскім асяроддзям пачуццё няпоўнацэннасці гістарычна абумоўленае; паглыблена яно ў даным выпадку нацыянальнай самапагардай, якой беларусаў сыцілі цэлыя эпохі. Не знікла яно аўтаматычна, разам з сацыяльным пераваротам, рэвалюцыяй.

Нядаўна давялося мне пабываць у агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай. У гэтай, здавалася б, адной з кузняў нацыянальных кадраў **адсутнічае культ беларускага слова!** У насценным часопісе, цікавым, каб хоць адзін радок быў напісаны па-беларуску. Каб хоць адзін вучань загаварыў, непрымушона, на матчынай... Апынулася яна на статуце абавязковай іншаземнай?

*„Бацькі не хочуць пасылаць дзяцей на ўрокі беларускай мовы!"* — часта чуем ад дырэктараў школ, але не да канца шчыра. Тыя ж бацькі пальцам указваюць на тое, што і самі настаўнікі прадмета цураюцца мовы, якой жа ж вучаць, пацішу лічачы яе, відаць, пазнакаю забітасці, нізкакультурнасці... Даюць дрэнны прыклад!

У Сакольскім павеце, як паведамляе М. Гайдук, са звыш дзесятка школ з роднай мовай, цяпер засталася ўсяго адна. Ведаю, дзе. У Астроўку! І ведаю, чаму. Калі пайшлі чуткі, што ў суседніх школах самаліквідуецца прадмет беларускай мовы, мясцовыя бацькі з'явіліся (у астроўкаўскай) з пацвярджэннем сваёй волі надалей навучаць яе дзяцей. Прасілі настаўніцу! Аб чым гэта сведчыць? Навучыла яна не толькі мовы, але і любові да яе. Закаханая ў яе, зрабіла мову беларускую неабходнай чалавеку, неад'емнай часткай ягонай індывідуальнасці і ягонага сэнсу жыцця.

Навучанне роднай мове мае велізарнае, аб'ектыўнае значэнне ў дзейнасці школы наогул. У дашкольным узросце дзіця засвойвае асноўны запас слоў і вынікаючых з іх уяўленняў аб свеце. Прыходзіць яно ў першы клас ужо з дастатковай здольнасцю выказваць

(Працяг на стар. 4)




# АСТРОВАК

Невялікая вёска ў трох кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Шудзялава, што на Сакольшчыне. Гаспадарак 49, у тым ліку каля 30 актыўных, іншыя — пенсіянеры. Жыхароў каля 180 чалавек.

Назва **Астровак,** мабыць, паходзіць з часоў, калі ў XV—XVI стагоддзях разгарнулася паскораная каланізацыя нетраў колішняй Гродзенскай пушчы, бо „востраў", „астравок" у тапаніміі мела значэнне вострава, груда, кавалка поля паміж лугамі або равамі, гаю, кустоў на беразе ракі або возера. І сапраўды, каля сённяшняга Астроўка знаходзіцца ўрочышча **Бязэльніца** (ад „без дна" — „бяздніца" — „бязэльніца"), зарослае тарфяной дрыгвой возера, рэшткай якога гадоў таму 40-50 было адкрытае „вока". У ім вадзіліся карасі, уюны ды шчупакі, а да дна ніхто нават у тры даўжыні звязанымі жэрдкамі дабрацца не здолеў. Кажуць, што аднойчы раз'юшаны бык Лазарэвіча ўскочыў у Бязэльніцу і патануў. Шукалі яго ў бязэльніцкай топелі, а ён выплыў аж у Нёмане каля Гродна. З дакументаў вядома, што вялікія абшары зямлі ў „абрубах" **Вялікі Востраў** (сённяшнія вёскі Паўднёвы Востраў, Паўночны Востраў і Новы Востраў) і **Малы Востраў** (цяперашні Астровак і Піражкі) ў палавіне XVI стагоддзя належалі да мястэчка Крынкі. У выніку валочнай памеры, якую запачаткавала каралева Бона і закончыў яе сын кароль Зыгмунт Аўгуст, як ва ўсіх каралеўскіх маёмасцях, так і тут параскіданыя сялянскія сялібы былі сцягнуты ў вёскі-вуліцоўкі. Зямлю каралеўскія землямеры перамерылі на валокі (валока — 21,36 га), ліквідавана была цераспалосіца і ўведзена трохпольная сістэма земляробства, якая панавала амаль 400 гадоў. Менавіта ў той час (некалькі год перад 1560 г.) з параскіданых па ўсяму наваколлю Бязэльніцы і абрубу сялянскіх сялібаў Астровак стаў вёскай, што і цяпер захавала ў сваёй старэйшай частцы планіроўку колішняй вуліцоўкі.

Які быў далейшы лёс жыхароў Астроўка, сёння цяжка сказаць, але вядома, што з колішніх каралеўскіх сялян яны сталі падданымі пана Дарэмара. Належалі да найбольш запрыгоненых, г.зн. шасцідзённікаў, што мусілі шэсць дзён у тыдні працаваць на панскім полі, а толькі адзін дзень, нядзелю, маглі прысвяціць працы на сваім палетку. Нясоладка жылося ім і ў міжваенны час.

— Як мы вярнуліся з бежанства, — прыгадвае астраўскі старажыл **Міхал Рысь,** — на месцы былай вёскі засталі адно каменне, а на палях — зараслі лазы ды асіны. Бацькі не стала, і пайшоў я ў пастушкі. З дзевяці год і да васемнаццаці пас быдла ў Трасцяным, Камянцы, Астроўку. Маці згарудавала ў той час нейкую халупінку, але ўда-

(Працяг на стар. 5)



*Міхал Рысь з'яўляецца сталым чытачом „Нівы" ад яе першага нумара. У яго зборах знаходзіцца ўсе гадавікі нашага тыднёвіка.*



*Новая мадэль піяніна „Беларусь-8“.*

Карэспандэнцыя з Мінска

## Барысаўскія піяніна

Гадзіна язды па чыгунцы ад Мінска — і вы ў горадзе Барысаве. Тут, на беразе ракі Беразіна, размешчаны вытворчыя карпусы Барысаўскай фабрыкі піяніна.

Вытворчасць музычных інструментаў на фабрыцы была наладжана яшчэ ў даваенныя гады. Цяпер фабрыка стала адным з буйнейшых прадпрыемстваў у Савецкім Саюзе па выпуску піяніна з поўнасцю закончаным тэхналагічным цыклам. Акрамя піяніна тут вырабляюцца цымбалы, электрычныя гітары, розныя дзіцячыя музычныя інструменты і цацкі.

У вытворчых цэхах фабрыкі ўстаноўлена шмат новай тэхнікі, што дало магчымасць павялічыць вытворчасць працы і аблегчыць працу рабочых. Калі раней паліроўка, грунтоўка і іншыя працы рабіліся ўручную, то цяпер на дапамогу прыйшлі сучасныя машыны з праграмным кіраваннем.

Галоўным цэхам фабрыкі з'яўляецца цэх механікі. Зборка вузлоў механікі піяніна патрабуе не толькі тонкай работы, але і высокіх ведаў, паколькі тут нараджаецца якасць гуку інструмента.

Характэрнай рысай калектыву з'яўляецца сталае імкненне да ўдасканальвання сваёй прафесіі. У цэхах фабрыкі цяпер працуе больш ста дыпламаваных інжынераў і тэхнікаў. Кожны трэці рабочы вучыцца ў навучальных установах ці на курсах па павышэнню кваліфікацыі. Многія з іх выраслі да вопытных спецыялістаў.

Піяніна „Беларусь“ карыстаецца вялікім спросам у пакупнікоў. Папулярнасць іх растлумачваецца многімі прычынамі. Перш за ўсё, яны прыцягваюць сваімі простымі лініямі, прыемным гукавым тэмбрам і ўдалымі прапорцыямі, якія дазваляюць добра ўпісвацца ў інтэр'еры кватэр, не заграмаджваючы іх. Музычныя інструменты Барысаўскай фабрыкі карыстаюцца вялікай папулярнасцю не толькі ў нашай краіне, але і ў многіх замежных краінах. Яны экспартуюцца больш чым у 20 краін свету.

За паспяховае выкананне задання пяцігадовага плана, распрацоўку і асваенне новых музычных інструментаў высокай якасці Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 11 студзеня 1971 года фабрыка ўзнагароджана ордэнам „Знак Пашаны“. Яна ўзнагароджана таксама шматлікімі граматамі і дыпломамі.

**В. Казлоў**
фота аўтара



*Фабрыка вырабляе цымбалы — беларускі народны музычны інструмент.*

# Што новага?

## Чаму ў свеце так многа кітайскіх рэстаранаў?

Ходзіць такі жарт. На пытанне: „Чаму ў свеце так многа кітайскіх рэстаранаў?“ гучыць адказ: „Таму, што кітайскі шпіён быў бы вельмі прыкметны ў натоўпе“.

У гэтай іроніі ёсць значная доля праўды. Сапраўды, пад шыльдай кітайскіх рэстаранаў у многіх краінах свету часта знаходзяць прыстанішча агенты сакрэтнай службы Пекіна. Дзейнасць кітайскай разведкі настолькі ўзмацнілася ў апошні час, што занепакоіліся ўсе буйнейшыя контрразведвальныя арганізацыі Захаду. У выніку многія іх супрацоўнікі вымушаны праводзіць значную частку свайго службовага часу, жуючы качку па-пекінску і сёрбаючы суп з ластаўкіных гнёздаў. А заадно спрабуючы высвятліць, якія ўстановы выкарыстоўвае Пекін для нелегальнай дзейнасці.

Для збору палітычнай і эканамічнай інфармацыі кітайская разведвальная служба выкарыстоўвае дыпламатычныя прадстаўніцтвы, а таксама розныя арганізацыі і нават прыватных асоб, якія працуюць за рубяжом. Задачу аблягчае існаванне ў многіх краінах значных кітайскіх абшчын: толькі ў Паўднёва-Усходняй Азіі пражывае каля 18 мільёнаў кітайцаў. Іграючы на патрыятычных пачуццях, пекінская разведка актыўна вярбуе некаторых прадстаўнікоў гэтай часткі насельніцтва; вялікая ўвага ўдзяляецца моладзі і студэнтам. Завербаваныя павінны ўкараняцца ў жыццёвыя ўрадавыя і грамадскія арганізацыі краін, дзе яны пражываюць і выкарыстоўваць сваё становішча для збору інфармацыі палітычна-ваеннага і эканамічнага характару.

Не так даўно ў Гаазе на тратуары ля дома нумар семнаццаць на вуліцы Прынца Морыца, які арандаваў трэці сакратар кітайскай дыпламатычнай місіі, прахожы ўбачыў параненага чалавека. Калі да месца здарэння прыбыла „хуткая дапамога“, паранены знік.

Кітайскія служачыя не пусцілі ў дом паліцыі і медыцынскіх работнікаў. Урэшце галандцам удалося настаяць, каб паранены быў перапраўлены ў шпіталь. Ім аказаўся саракадвухгадовы Су Цзу-цай. Аднак неўзабаве ў бальнічнай палаце з'явіліся прадстаўнікі кітайскай службы бяспекі, паклалі чалавека, які стагнаў на насілкі і аднеслі ў аўтамабіль, што чакаў іх.

Два дні кітайцы пакідалі без увагі патрабаванні галандскага ўрада вярнуць пацярпеўшага ў шпіталь. На трэці дзень яны паведамілі, што паранены памёр. Галандская служба бяспекі ўстанавіла, што Су Цзу-цай выкінуўся з акна. Яе прадстаўнікі лічаць, што кітайская разведка ў Еўропе ліквідавала агента, які страціў давер'е.

Асабліва выразна характар дзейнасці кітайскай разведкі праяўляецца ў краінах, якія Пекін лічыць традыцыйнай сферай свайго ўплыву. Да іх ліку адносяцца многія азіяцкія дзяржавы. Імкнучыся ўстанавіць над гэтым раёнам палітычны і эканамічны кантроль, пекінскія кіраўнікі робяць усё магчымае, каб аслабіць суседнія дзяржавы, пасеяць паміж імі насенне недавер'я і варожасці. Значная роля тут адводзіцца разведцы.

У Індыі, Бірме, Бангладэш кітайская сакрэтная служба многія гады раздувае сепаратысцкія настроі. Карыстаючыся адсталасцю некаторых плямёнаў, якія жывуць у гэтых краінах, іх падбіваюць на ўзброеныя выступленні супраць нацыянальных урадаў, абяцаючы дапамогу зброяй і грашыма.

Не так даўно індыйская армія перахапіла атрад, навербаваны з прадстаўнікоў племя нага, які накіроўваўся ў Кітай для ваеннай перападрыхтоўкі. У адным са знойдзеных у мяцежнікаў дакуменце гаварылася: „Мы абяцаем вам аказваць матэрыяльную, фізічную і маральную падтрымку для вызвалення Нагаленда“.

Яўна для падтрымкі сепаратыстаў Пекін перакінуў на паўночны ўсход Бірмы некалькі тысяч кітайскіх салдат. Паводле некаторых падлікаў, колькасць кітайскіх войск на тэрыторыі Бірмы складае дзевяць тысяч чалавек.

На Малакскім паўвостраве Пекін трымае пад сваім кантролем каля 1600 узброеных салдат, разбітых на некалькі груп, якія не толькі вядуць ваенныя дзеянні супраць рэгулярнай арміі, але і імкнуцца дэзарганізаваць жыццё мірнага насельніцтва.

На Філіпінах кітайская разведка ўжо даўно спрабуе ўвайсці ў кантакт з мусульманскім насельніцтвам, якое выступае за стварэнне рэспублікі Бангса-Мора. Прадстаўнікі ваеннага камандавання Інданезіі паведамлялі, што Пекін заслаў на востраў Суматра групу кітайцаў, якія прайшлі спецыяльную падрыхтоўку для правядзення антыўрадавых акцый.

У V стагоддзі да н.э. кітайскі філосаф Сунь-цзы, аўтар працы „Майстэрства вайны“, сказаў, што адукаваны правіцель і здольны военачальнік перамагае ворага яшчэ да таго, як яго армія выступае ў паход, толькі адным веданнем планаў ворага. А планы могуць быць атрыманы толькі ад чалавека, які ведае становішча ў чужым лагеры. Відаць, пекінскія кіраўнікі, выношваючы свае вялікадзяржаўныя планы, на практыцы выкарыстоўваюць ідэі патрыярха кітайскага шпіянажу.

**М. Чумакоў.**

# БГКТ хроніка

■ Добра супрацоўнічае сямяціцкі аддзел БГКТ у Мілейчыцах з мясцовымі арганізацыямі. Як кожны год, так і сёлета быў ён суарганізатарам урачыстасці з нагоды XXX гадавіны перамогі над Германіяй. У часе гэтай урачыстасці заўсёды адбываецца складанне вянкоў на могілках савецкіх салдат у Мілейчыцах.

У падрыхтоўцы народнага сялянскага свята аддзел БГКТ у Мілейчыцах таксама быў адным з галоўных арганізатараў, а сакратар аддзела Міхась Вішанка выступаў там з дакладам. Цікава прайшлі і сустрэчы з ветэранамі II сусветнай вайны — Антонам Трухляком і Мікалаем Турыкам, якія адбыліся 19 і 21 мая.

■ У Дзяніскаў (былы Бельскі павет) адбыўся сход нядаўна ўтворанага гуртка БГКТ, на якім былі ўручаны членскія легітымацыі. На гэтым-жа сходзе ўсе члены БГКТ аплацілі складчыны за бягучы 1975 год.

■ Тэатральны калектыў са Скупава нядаўна выступіў з п'есай „Мікітаў лапаць“ для членаў БГКТ у Гурным (Гайнаўка).

■ 22 мая ў Бельску прэзідыум аддзела абмяркоўваў арганізацыйныя справы, звязаныя з арганізацыяй народнага фэстына БГКТ, прысвечанага XXX гадавіне перамогі над гітлераўскай Германіяй, які адбудзецца 29 чэрвеня ў вёсцы Сакі.

■ Да фэстына рыхтуюцца таксама сакольскі, гайнаўскі і беластоцкі аддзелы. Адбудуцца яны 15 чэрвеня ў Паўночным Востраве, 22 чэрвеня ў Дубічах Царкоўных і 6 ліпеня ў Рыбаках.

■ 29 мая ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку праходзіў школьны конкурс „Беларуская песня-75“. Удзельнікамі яго былі школьнікі з былога Беластоцкага павету.

■ Фінал песеннага конкурсу сярод школьнай моладзі адбыўся 1 чэрвеня таксама ў памяшканні ГП БГКТ у Беластоку. Аб ім будзе змешчана асобная публікацыя ў „Зорцы“.

■ У гмінвай урачыстасці ў Гарадку з нагоды Дня дзеяча культуры (30 мая) прыняў удзел мясцовы жаночы харавы калектыў БГКТ. Некаторыя з удзельнікаў гэтага калектыву атрымалі ўзнагароды.

■ Наш паэт Алесь Барскі ў маі месяцы правёў шмат аўтарскіх сустрэч у школах былога Гайнаўскага павету. Чытаў ён свае вершы ў Лясным тэхнікуме ў Белавежы, у беларускім і польскім ліцэях у Гайнаўцы і ў пачатковых школах: у Альхоўцы, Крыўцы, Нарве, Скупаве і Ляшуках. Слухачы купілі шмат кніжак аўтара і 470 экземпляраў кніжкі „БГКТ“, выдадзенай ГП БГКТ. (мх)

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 14.VI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 10.00 Cena złota — film fab. czech. cz. II. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.20 Hod. zwierz. 15.00 Pr. dnia. 15.05 Pr. I prop. 15.20 Kr. Warsz. i Maz. 15.40 Inf. Wyd. 16.00 Dzien. 16.10 Harc. popołudnie. 17.00 Międzynar. Zaw. Hip. o Puchar Narodów. 18.25 Postaw się nie zastaw się. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Fest. Pios. Radz. w Ziel. Górze — Koncert Przyjaźni. 22.10 Niezwykły autobus — film ang. 22.40 Sport. 22.55 Kabaret Star. Panów.

**Niedziela 15.VI.** 6.55 Tech. Rol. Mat. 7.25 Hod. zwierz. 8.00 Kurs Rol. 8.10 Przyp., radz. 8.35 Now. w domu i zagr. 8.50 Bieg po zdr. 8.55 Sport. 9.00 Grubasek — film przyg. CSRS. 10.15 Antena. 10.35 W starym kinie. 11.20 Piórkiem i węglem. 12.00 Dzien. 12.20 Tydzień. 12.50 Nie tylko dla pań. 13.20 Lekt. Pegaza. 13.35 BANK MIAST. 14.50 Tele-Echo. 15.45 Los. Toto-Lot. 16.00 Fest. Pios. Radz. w Ziel. Górze — Koncert Galowy. 17.00 Sport. 18.30 BANK MIAST. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Życie Moliera — śmiech i łzy. odc. VI. 21.25 Halo — tu Łódź. 23.00 Sport.

**Poniedziałek 16.VI.** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.50 Nurt — Naucz. pocz. mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Echo stad. 17.05 Kur. Biał. 17.20 Kr. Warsz. i Maz. 17.35 TELEFERIE. 18.50 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: Rabindranath Tagore — „Poczta“. 21.30 Pegaz. 22.15 Muz. wizyty. 22.45 Dzien. 23.00 Oferty.

**Wtorek 17.VI.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. Tel. Najmł. PORANEK. 10.00 Życie Moliera — śmiech i łzy. odc. VI — ostatni. 13.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Studio Mł. 17.05 Pol. Film Dok. W służbie pokoju. 17.25 Sezam. 17.50 Kr. Warsz. i Maz. 18.10 Przyp., radz. 18.20 Mister Exportu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Romantyk — film fab. węg. 21.40 Świat i Polska. 22.20 Pr. pośw. pieśniom portugalskim. 23.00 Dzien. 23.15 Sport.

**Środa 18.VI.** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 7.00 Mech. rol. 10.00 Film fab. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 i 15.15 Politech. Kurs przyg. cz. V i VI. 15.50 Nurt — Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Jazz czy Bach. 17.10 Inf., Tow., Prop. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.30 Ziemia księżniczki Luśki — nowela film. radz. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Kino Int. Fil. Ten najlepszy — film fab. USA. 22.05 Sport. 23.05 Dzien.

**Czwartek 19.VI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 8.00 Kurs Inf. 2 wykł. 10.00 Kolekcjoner — film fab. ang. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Ochr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Tuzin — teletur. pop. naukowy — odc. II. 17.05 Kr. Warsz. i Maz. 17.25 Przyp., radz. 17.30 TELEFERIE. 18.45 Patrol. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Czarny książę — film fab. radz. 22.00 Czym żyje świat. 22.30 Dzien. 22.45 Sport.

**Piątek 20.VI.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Ochr. rośl. 9.00 Dla dzieci: PORANEK. 10.00 Film fab. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 i 15.15 Politech. Kurs przyg. Mat. cz. VI i VII. 15.45 Nurt — Ped. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dzien. 16.30 Dla mł. Ostatnia lekcja. 17.00 Sport. 19.00 Kr. Warsz. i Maz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Zaśp. to jeszcze raz. 20.50 Panorama. 21.30 Czterdziestolatek. odc. VI. 22.20 Dzien. 22.35 Sport.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 13.VI.** — 8.00 Koncert. 8.55 Film dla dzieci. 13.15 Film dla dzieci. 14.55 Spotkanie wyborców z L. Breżniewem. Koncert.

**Sobota 14.VI.** — 10.00 Koncert chóru państwowego z Woroneża. 11.30 Koncert życzeń. 14.45 Koncert pios. radz. 16.40 W świecie zwierząt. 17.40 Film fab. 19.30 P. nożna CSKA — Torpedo. 2 poł. 20.15 Operetka. 21.15 Koszykówka. Mistrz. Europy.

**Niedziela 15.VI.** — 9.00 Koncert chóru dziecięcego. 11.40 Film fab. 13.40 Panorama międzynar. 14.20 Filmy anim. 15.00 Klub film. 16.15 Film dok. 17.30 P. nożna. Dynamo (Kijów) — Dynamo (Moskwa). 19.45 Koncert pios. 20.40 Koszykówka. Mistrz. Europy.

# KINO

**Białowieża** Królewna w oślej skórze — fr. 17—18. Potop — pol. 19—22.

**Czeremcha** Szaleniec z IV laboratorium — fr. 17—18. Wiosna panie sierżancie — pol. 21—22.

**Czyże** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. Narkotyk — fr. 18—22.

**Dubicze Cerkiewne** Ostatni nabój — rum. Pułapka na generała — jug. 18—22.

**Gródek** Wielki łup gangu Olsena — duń. 21—22.

**Kleszczele** Jaskółki — węg. 17—18. Nikt nie chciał umierać — radz. 19—20. Zapamiętaj imię swoje — pol. 21—22.

**Michałowo** Ojciec Chrzestny — USA 17—18. Znakomity piątek — ang. 20—21. Nadzieżda — radz. 22.

**Milejczyce** Ostatnia gra Karima — radz. 17—18. Rodzinny gang — wł. 19—20. Roztargniony — fr. 21—22.

**Narew** Swobodny oddech — czes. Zapis zbrodni — pol. 18—22.

**Narewka** Pójdziesz ponad sadem — pol. Pułapka w delcie Dunaju — rum. 18—22.

**Nurzec** Przyjęcie — rum. 17—18. Wspaniały interes — wł. 19—20. Zła noc — czes. 21—22.

**Orla** Szaleństwo miłości — nor. Trzy orzeszki dla kopciuszka — NRD 18—22.

**Rajsk** Wódz Prusów — radz. Życie dla miłości — jug. 18—22.

**Suchowola** Przygody Robinsona Kruzoe — radz. Brylanty pani Zuzy — pol. 18—22.

B.Z.Graf. zam. 1672 P-1



Самая маладая лабарантка Крыстына Бачынская працуе на малочным заводзе адразу пасля заканчэння вучобы ў Беластоцкім малочным тэхнікуме.



На новым камбінаце на кожным кроку сустракаемся з тэхнічнымі прыладамі.



А вось сухое малако, прывезенае на склад у мяшку.



Гэтымі бліскучымі трубамі плыве малако ва ўмяшчальнікі.

## 20 ТЫСЯЧ У ГАДЗІНУ

Вялікі малочны камбінат у Бельску Падляшскім перапрацоўвае 20 тысяч літраў сырадою ў гадзіну. Пабудавалі яго італьянскія спецыялісты на працягу 10 месяцаў. У год выпускае ён 8 тыс. тон сухога малака, палавіна яго ідзе на экспарт. На камбінаце працуе 60 асоб на тры змены.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**




Ужо 22 гады працую журналістам, 22 гады маю непасрэднае сутыкненне з людзьмі, з працаўнікамі адміністрацыйных улад усіх ступеняў. З прыемнасцю сцвярджаю, што не сустрэўся я ніколі з грубасцю, з адмовай даць інфармацыі. Людзі ў асобе журналіста бачаць не прыватную асобу, а прапагандыста ўсяго станоўчага і крытыка адмоўных з'яў нашага жыцця. Яны разумеюць значэнне прэсы, яе ролю і заданні, таму ветліва і ахвотна дзеляцца з ім дасягненнямі і цяжкасцямі ў працы сваіх устаноў, ведамстваў, падказваюць тэмы, задаволены, калі журналіст хоча напісаць пра тыя ці іншыя справы. Нават тады, калі надта заняты, усё роўна хоць адну хвіліну пагавораць з журналістам, скажуць, што прадоўжыць размову змогуць праз гадзіну ці дзве, або прынамсі папросяць кампетэнтнага працаўніка, каб той даў інфармацыю. Але ніколі ніхто не меў прэтэнзіі за тое, што да іх звяртаешся адразу, не дагаварваючыся раней. Гэта зусім не значыць, што журналісты ніколі не дагаварваюцца з начальнікамі аб сустрэчы.

За 22 гады сваёй журналісцкай працы я ўпершыню ў маі бягучага года сустрэўся з непрыхільнасцю, а мо нават грубасцю. Наведаў я Бельскую гміну. На маё пытанне, ці ёсць начальнік, мне адказалі, што ён у сваім кабінеце, але нехта ў яго цяпер ёсць. Чакаю, калі выйдзе наведвальнік з думкай, што папрашу начальніка, каб прысвяціў мне некалькі мінут, бо планаваў я паехаць у вёскі гэтай гміны. І вось выходзіць наведвальнік, і я ў дзвярах звяртаюся да начальніка гміны інжынера Каліны, якому з выгляду не больш 30 год, каб ён мяне прыняў. А ён да мяне цвёрда: „У якой пан справе?“ І не дае мне дайсці да голасу: „Хто пан і адкуль?“ На гэта я паспеў адказаць, а ён тады яшчэ цвярдзей: „Пан са мной не дагаварваўся, не прыму!“ І захлопнуў дзверы свайго кабінета.

Працаўнікі сакратарыята не былі здзіўлены паводзінамі начальніка. Здзіўлены быў толькі я.

— А як ён прымае сялян? Як ён адносіцца да іх? — падумаў я. — Яны ж не маюць часу спецыяльна прыходзіць і дагаварвацца на прыём да пана начальніка.

**М. Хмялеўскі**




...у Аўстраліі, Бельгіі, Ізраілі, Швецыі і Уругваі звыш 80 працэнтаў насельніцтва жыве ў гарадах;

...звыш паловы насельніцтва Манака і Кувейта нарадзілася за мяжой.

(ті)

Пачатак на стар. 1

## ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ ПАРТЫІ...

Невыпадкова спасылаюся на прыклады з Бранска і Боцек. Трэба ведаць усю складаную пасляваенную гісторыю Беласточчыны, каб правідлова ацаніць перамены ў гэтых гмінах. Быў такі час, што, калі той, хто з партыйным білетам у партфелі паяўляўся ў наваколлі Боцек або Бранска, не быў упэўнены ці жывым вернецца дамоў. Трагічная смерць міліцыянераў з боцькаўскага пастарунку і многіх іншых партыйных дзеячоў — найлепшы гэтаму доказ. А цяпер Боцькі і Бранск вылучаюцца высокімі тэмпамі ў разбудове радоў партыі. Знаходзяцца яны ў першай чацвёрцы гмін свайго наваколля. У вёсках Бранскай гміны да пачатку абмену партыйных білетаў арганізаваліся тры новыя кандыдацкія групы.

Настойлівая, паслядоўная палітыка нашай партыі, накіраваная на абарону жыццёвых спраў працоўнага люду, поўнасцю пераканала і тых, хто ў пачатку сацыялістычных пераўтварэнняў у нашай краіне, зараз жа пасля вайны, ахвотна паддаваўся рэакцыйным уплывам, дзе ўсё новае пагардліва называлася *партыйнай, бальшавіцкай прапагандай*“.

Тут зноў прыпамінаюцца словы Эдварда Герка:

*„Развіццё нашай краіны на працягу мінулых трох дзесяцігоддзяў добра сведчыць аб партыі, аб правільнасці яе палітыкі. Нягледзячы аднак на аграмадныя поспехі і хуткае развіццё краіны, маем усё яшчэ шмат цяжкіх і складаных праблем, патрабуючых вырашэння. Гэта справа ўсяго народа. Але асаблівая адказнасць і асаблівая роля прыпадае членам партыі, якія заўсёды і ўсюды павінны даваць прыклад патрыятызму, грамадзянскай актыўнасці, справядлівых паводзін і добрасумленнасці, вернасці і адданасці ідэям сацыялізму. Вядучая роля партыі можа ажыццяўляцца поўнасцю толькі тады, калі яна будзе праяўляцца ва ўдарніцтве кожнага члена партыі ў сваім асяроддзі“.*

Найлепшым адказам на гэтыя словы аказалася нядзеля „Партыйнага чыну“, у якім на Беласточчыне прыняло ўдзел амаль 60 тыс. членаў партыі і 35 тыс. беспартыйных. Дзякуючы грамадскай працы за адзін толькі гэты дзень было пасаджана 52 га лесу, адрамантавана 250 км вясковых дарог і праведзена шмат іншых прац у звыш 750 месцах.

Такую практычную, жыццёвую вымову маюць словы „па ініцыятыве партыі“, якія так часта мы чуем.

**Віктар Рудчык**

## ПРЫЧЫНА? САМАПАГАРДА!

(Працяг са стар. 1)

думкі ды спасцярогі. Мова, прысвоеная яму родзічамі і асяроддзем, з'явілася сродкам развіцця асабовасці дзіцяці. Набрыняла яна ёю! Дзякуючы ёй — дасягнула пэўнага інтэлектуальнага ўзроўню, які ў далейшым павінен хутка павышацца пры дапамозе настаўнікаў. Даўно сцверджана, што роднай мове належыць ц э н т р а л ь н а я роля ў працэсе пазнавання чалавекам свету. Глыбока педагагічнымі з'яўляюцца метады некаторых настаўнікаў, якія звяртаюць увагу на тое, што эфектыўнасць работы школы абумоўлена ў першых-другіх класах пастаянным выкарыстоўваннем беларускай мовы. Адукацыя пачынаецца ад мовы! Трэба дадаць, роднай.

Навучанне беларускай мовы ў школах не можа адбывацца ў адарванасці ад праблематыкі, якой жыве народ. Дарэчы, гэта заўвага датычыцца большасці прадметаў, увогуле школы!

*„Прадмет беларускай мовы — непатрэбны! Нашто ён?“* — такога не пачуеш у мясцовасцях, дзе педагогі выпрацавалі пачуццёвую і інтэлектуальную патрэбу беларушчыны як крыніцы задавальнення духоўных і разумовых імкненняў людзей. Дзе бацькі глядзяць на сваю, нацыянальную мову, як на сродак прагрэсу, пераход ад таго, што найбольш блізкае і простае, да таго, што складанае і далёкае. Як на перадачу лепшай часткі ўласных дасягненняў, карэнняў, без якіх не вырастае дрэва... Гэта мае пачатак у сваемоўных сачыненнях, насценных газетах, аматарскіх спектаклях; у чытанні кніжак, „Нівы“ і іншых часопісаў; у спевах і захапленні народнай культурай, гісторыяй Беларусі ды нашага лёсу, супольнага з палякамі...

Школа робіць вялікую крыўду дзецям, калі не дае ім нацыянальнай гордасці, як завяршэння іх свядомасці „тутэйшасці“. Крыўду ўсяму грамадству. Выпускае, у выніку, грамадскіх калек, якія, не шануючы свайго, пазбаўлены здольнасці шанаваць вартасці таксама і братняга народа, прымаючы іх толькі з п р а к т ы ч н ы х **меркаванняў. —** Безамбітныя і бяздушныя!

Здавалася б, няма нічога болей абсурднага, як грамадска шырокая з'ява самапаніжэння. Бярэцца яна з беднасці духоўных і матэрыяльных традыцый. І старая яна, як сам свет.

Здавалася б, бацькам павінна быць важна, каб дзеці ганарыліся імі, лічылі сябе пераймальнікамі іх памкненняў. Прадаўжальнікамі! Але чаго?

Мінулыя эпохі не далі бацькам нашым гордасці, рабавалі ў іх матэрыяльныя і духоўныя здабыткі. Нашаму ж пакаленню, узгадаванаму ў сацыялізме, выпала нялёгкае заданне выканаць Купалаўскі наказ „людзьмі звацца“. Ажыццяўляем яго, аказваецца, не беззаганна.

Не раз думаў я над тым бясспрэчным сэнсам, якім з'яўляецца навучанне свайго дзіцяці роднай мове. Самае важнае, разумею, у тым, каб дзіця прысвоіла, палічыла сваёй, спадчыну роднага народа ды, у будучым, у меру ўласных магчымасцей, узбагаціла яе арыгінальнымі здзяйсненнямі. Ад родзічаў і настаўнікаў залежыць, ці возьме яно на дарогу свайго жыцця і колькі з таго, што можа даць яму беларуская культура.

Аўтарытэт настаўніка ва ўзаемных зносінах з бацькамі навучэнцаў з'яўляецца нярэдка рашаючым фактарам у цэласці выхаваўчага працэсу. Гэта засведчыла гісторыя нарадзін ды развіцця нацыянальнай асветы ў беларусаў, палякаў, украінцаў, і г.д.

Роля ж Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), як грамадскай арганізацыі дарослых, бацькоў і зацікаўленых беларускай культурай, з'яўляецца дапаможнай у цэласці выхаваўчай дзейнасці настаўніцтва і ніколі не заменіць яго. Але яна нямала істотная ў сітуацыі добраахвотнасці ў навучанні роднай мовы. Ды БГКТ, як вядома, таксама раптоўна занядае, і якраз ад 1970/71 гадоў.

У чым прычына?

Думаю, што галоўная прычына таго „высыхання“ таварыства тая ж: няма **самашанавання.** Кусціцца ў ім нейкі хутарскі, лясунскі эгаізм! Маю магчымасць, з увагі на выконваемую прафесію, параўноўваць дзейнасць БГКТ з дзейнасцю шматлікіх іншых грамадскіх утварэнняў, у якіх, аднак, у адрозненне ад БГКТ, актыў знаходзіцца ў пашане! Органы БГКТ не прыкмячаюць бязмернага капіталу бескарыснай ініцыятывы членаў і сімпатыкаў сваіх, не квапяцца, так сказаць, загаспадарыць яго, асвоіць. Няхай паслужыць тут у прыклад той участак дзейнасці таварыства, з якім я нядрэнна азнаёмлены: лектарская актыўнасць пісьменнікаў, журналістаў, вучоных, блізкіх БГКТ. Чаму гатоўнасць многіх сярод іх да грамадскай працы скарыстоўваецца апаратам БГКТ гэтак, быццам трэба было пазбывацца маніякаў-начэплівцаў? Ці можна тады дзівіцца, што зараз „дакучае“ ўсяго ўжо жменька іх, з некалі тлумнай кагорты інтэлігентнага актыву,

Пачатак на стар. 1




рыў пярун — усё датла згарэла. Падаўся я яшчэ на работу ў гарбарню Сімхі Астрынскага ў Крынках. За 14-гадзінную штодзённую працу фабрыкант плаціў 2 злотых, і то трэба было добра ногі стаптаць, просячы, каб заплаціў! Палегчала крыху, як мяне прынялі ў прафесіянальны саюз гарбароў, што адстойваў нашыя правы. Тады ўжо ўласнік за 8-гадзінны дзень працы плаціў 5 злотых 60 грошай. Любіў я чытаць, і паліцыя западозрыла, што з'яўляюся камуністам. Абшуквалі ды траслі перад кожным Першым Маем, падкідвалі жмутамі лістоўкі, каб мець падставу арыштаваць. Перадыхнулі мы толькі пры Савецкай уладзе. А потым зноў пачалося: пабоі, вываз у Нямеччыну, расстрэлы. У першыя гады народнай улады таксама, што ні ноч — бандзёры вёску грабяць. І мне аднойчы такую вось пісульку ткнулі...

І М. Рысь падаў запіску на лістку, вырваным са школьнага сшытка:

*Загад лясных часцей АК*

*Былы камуніст Міхал Рысь у тэрміне да 5.VI.1946 г. мусіць пакінуць тэрыторыю Польшчы, бо такому ў Польшчы не належыцца і не павінна быць месца для жыцця.*

*Камендант АК мясц. лясных часцей Мацей Рузга*

Аднак М. Рысь не спалохаўся і не пакінуў свайго бацькоўскага загона. Сёння ён — пенсіянер, разам з жонкаю даглядаюць свой агарод і садок, адпачываюць пасля доўгіх год нялёгкай працы. Іх дзеці атрымалі адукацыю і занялі пачэснае месца ў нашым грамадстве: сын Янка працуе ў Катавіцах сталеварам, Мікалай — інжынерам-электрыкам у Беластоку, дачка Таня — ткачыха ў Фастах, Раіса — медсястра ў Беластоку.

Наогул маладое пакаленне астраўчан за гады народнай улады, як кажуць, зраўнялася з людзьмі: закончыла сярэднія і вышэйшыя школы і цяпер нават цяжка пералічыць інжынераў, настаўнікаў, аграномаў, тэхнікаў, што з-над Бяззэльніцы рассыпаліся па ўсёй краіне.

Але і тыя, хто застаўся ў Астроўку, таксама не спяць у шапку.

— Астровак і навакольныя сёлы — гэта сапраўдны бульбяны басейн, — кажа гмінны агроном у Шудзялаве, астраўчанін **Янка Бандарук**. — У сярэднім сяляне вырошчваюць тут сарты „Флісак", „Эпоха" па 250 цэнтнераў з гектара. Прадаюць дзяржаве больш-менш 10 тон бульбы з гаспадаркі. Накіроўваецца яна пераважна ў сталовыя і крамы Шлёнска. Збожжа таксама збіраюць па 28 ц/га. Людзі тут працавітыя і дбайныя. Вось хоць бы самы лепшы гаспадар у вёсцы **Сцяпан Лазарэвіч**, што гаспадарыць на 18 гектарах. Мае ён трактар і ўсе сельскагаспадарчыя машыны, гадуе 20 штук быдла, у тым ад 8 дойных кароў дастаўляе штодзённа каля 80 літраў малака. У мінулым годзе даставіў дзве тоны ялавічыны і тону свініны, прадаў каля 40 тон бульбы і 8 тон збожжа. Ураджаі ў яго ў сярэднім звыш 30 ц/га. Або **Леў Федзюкевіч**, які гаспадарыць на 14 гектарах. Гэты спецыялізуецца ў збожжы. У яго пшаніца дае з гектара 35 ц, ячмень — 40 ц, жыта — 32 ц. **Саламон Бандарук** спецыяліст па гадоўлі парасят. Раней трымаў чатыры свінаматкі, цяпер толькі дзве, але і ад іх прадае ў год 40 штук парасят і 10 кормнікаў. На яго полі добра родзіць збожжа, а бульба дае па 320 ц/га. У мінулым годзе прадаў дзяржаве 24 тоны „Флісака" і „Эпохі" самага высокага сорту.

У той дзень, як я наведаў Астровак, у солтысавым доме адбываўся якраз вясковы сход, на якім стаяла справа меліярацыі і загаспадарання 120 гектараў супольнага выгану. **Бандарукі, Весяловічы, Гібульскія, Гудалеўскія, Камінскія, Кастэцкія, Кузьмы, Лазарэвічы, Піцэвічы, Радзевічы, Рысі, Федзюкевічы, Юзэфовічы** доўга і грунтоўна абмяркоўвалі справу, маючы на ўвазе перш за ўсё тое, каб цяперашні выган-бубен стаў асноўнай базай для далейшага павелічэння жывёлагадоўлі ў сяле. І нельга было не быць упэўненым, што выган ля Бяззэльніцы, падобна як палеткі **Доўгія, Шырокія, Вузкія, Ляdоўня, Забагонне, Дуброва, Мікелеўшчына, Цагельня, Гаік, Маргі, Клінаватае** і лугі **Друцёлка, Драмэрскі, Лясок** і іншыя, будзе з 1976/77 гадоў, дзякуючы пільнаму дагляду астраўчан, падставай да яшчэ больш заможнага іх жыцця.

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



*Агроном Я. Бандарук спадзяецца, што бягучы год будзе і ў садах надта ўраджайны.*

здольнага, не прымітыўна праводзіць і тую растлумачвальную работу, аб якой згадвае, як аб чаканай панацэі, Мікалай Гайдук, зрэшты, з тутэйшых наіўнасцю бачачы ў гэтым ратунак... Дарэчы, да таго, што ён пералічыў, як былое і забытае БГКТ, удадатак падаю: клуб беларускай інтэлігенцыі, пачаткі секцыі энтузіястаў беларускай мовы, беларускі самадзейны тэатр (не памыляць з „Лявоніхай"!). Шмат чаго было... І то ў часы, калі не хапала людзей для так спецыяльнай работы.

А цяпер? Усё можна аднавіць, нават на працягу аднаго сезона. Кадры, вырасшыя і з немалым у сучасны момант значэннем у агульнагрмадскім жыцці, — сапраўды забытыя! Пакінутыя, па-марнатраўніцку, на халасты ход... Гэта толькі з выгляду не мае дачынення да праблемы ўтрымання ды яшчэ і пашырэння навучання беларускай мовы ў школах, за паспяховае вырашэнне якой на БГКТ **ускладаецца штораз большая маральная і арганізацыйная адказнасць!**

Беларускае грамадска-культурнае таварыства, як ніколі дагэтуль, можа стаць высокааўтарытэтнай арганізацыяй, з моцным прэстыжам сярод насельніцтва. Напачатак — досыць яму сабраць у адно ўсё тое, чаго дабілася яно, трывала і нетрывала, за сваіх дваццаць гадоў грамадскага побыту. Сабраць і выкарыстоўваць з размахам. З верай у сябе!

**Сакрат Яновіч**

## Урачыстае святкаванне
# Дня дзеяча культуры

Асабліва ўрачыста адзначалася свята дзеяча культуры ў гміне Гарадок. З гэтай нагоды адбылося ўрачыстае мерапрыемства, спалучанае з мастацкай часткай, у гмінным цэнтры культуры ў Гарадку, на якой найбольш актыўныя і заслужаныя дзеячы культуры гарадоцкай акругі атрымалі ўзнагароды. Начальнік гміны Аляксандр Бура ўручыў іх Янку Карповічу, Любе Ваўрэнюк, Тэрэсе Мікалаеўскай, Лідзіі Самойлік, Галіне Краўчык, Лідзіі Паплаўскай, Тамары Бурачэўскай. Апрача таго, грашовыя ўзнагароды ад аддзела культуры ў Беластоку атрымалі тры асобы: Ніна Мушынская, Ніна Цывалюк і Ян Дзюдзя. (ця)

# Каб не запозна

Ёсць такая ўстанова, што праводзіць страхоўку маёмасці, называецца ПЗУ. ПЗУ вядзе і супрацьпажарную страхоўку. Яна вельмі важная, бо колькі ж яшчэ бяды бывае ў нас ад пажараў! На жаль, многія не аплочваюць супрацьпажарных складчын у ПЗУ і, калі бяда здарыцца, не атрымліваюць грошай.

**Э. Вайсковіч**

# ФАЛЬКЛОР

*ВЯСЕЛЬНАЯ*




Чы я ў лузі ні каліна была?
Чы я ў лузі ні хорошая была?
Ўзялі міне паламалі
і ў пучэчкі павязалі —
така доля мая,
така доля мая!
Чы я ў лузі ні травіна была?
Чы я ў лузі ні зялёная была?
Ўзялі міне пакасілі
і ў капіцы звалачылі —
така доля мая,
така доля мая!

Чы я ў полю ні пшаніца была?
Чы я ў полю ні ядроная была?
Ўзялі міне дай пажалі
і ў снапочкі павязалі —
така доля мая,
така доля мая!
Чы я ў бацька ні дзяціна была?
Чы я ў бацька ні хорошая была?
Ўзялі міне замуж далі,
свет галоўцы завязалі —
така доля мая,
така доля мая!

Ад Надзеі Грыцук, 1910 года нараджэння, і Марыі Юровец, 1921 года нараджэння, вёска Навасёлкі Беластоцкага павету, запісаў у кастрычніку 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.




# Нашаніўская пара

**АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА IX**

**Грамадская лірыка.** Пазнаёмімся з двума вершамі, якія адносяцца да грамадскага цыклу, з вершамі „Песня капачоў" і „Муляру". Розны грамадскі накал і розны тэмперамент характарызуе гэтыя вершы, аднак, спайвае гэтыя творы нездаволенасць існуючым станам рэчаў, імкненне да новых форм жыцця. Характэрным у гэтым сэнсе з'яўляецца верш „Песня капачоў". Твор гэты напісаны ў Сібіры, а яго змест адносіцца да нядолі гарнякоў, якія капаюць золата. Хаця большасць грамадскіх вершаў Гаруна моцна асаджана ў беларускай рэчаіснасці, верш „Песня капачоў" адносіцца да рабочых людзей вогуле. Характэрнай рысай гэтага твора з'яўляецца яго моцны, бадзёры тон. Нездарма твор называецца песняй. І хоць не мала ў ім наракання на цяжкую працу і пакутлівае жыццё, то ўсё ж такі можна яго назваць песняй надзеі. У творы адчуваецца дынаміка, сіла, вера тых, хто патаптаны, хто кінуты ў падзямеллі, хто прыкрэплены да лома і лапаты. У вершы „Песня капачоў" Гарун прамаўляе, як рабочы, як паэт пакрыўджаных, пазбаўленых долі, але не пазбаўленых надзеі людзей. У „Песні капачоў" выступае элемент пагрозы, прароцтва сацыяльнай буры, перакананне аб тым, што прылады, якімі карыстаюцца рудакопы, могуць быць выкарыстаны не толькі ў змаганні са скаламі, але і ў барацьбе з прыгнятальнікамі:

У вадно змяшаныя з быдлём,
Мы так жылі ад веку,
Аднак мы ў бордзе зажывём,
Як следна чалавеку.
Панамі ў свеце будзем мы
І свой лад пастановім,
Насталім толькі мы ламы
І дзюбы кайл падновім.

Характэрны таксама для грамадскай лірыкі Гаруна яго верш „Муляру". Трэба сказаць, што верш з падобнай тэмай выступае ў рускага паэта Валерыя Брусава. Верш „Муляру" гэта зварот паэта, які атоесамліваецца з рабочым, да свайго сабрата, рабочага-муляра. Муляр будуе „дол смяротны" — склеп. Паэт лічыць, што муляр не павінен будаваць „сховаў смерці", а павінен прыкладзіць свае рукі да канструкцыі жыцця:

Мур вялікі вольнай волі,
Мур высокі да нябёс,
Мур братэрства, роўнай долі,
Мур для радасці без слёз.

Зразумела, што і „дол смяротны" і „мур братэрства" маюць сімвалічнае значэнне. У вершы ідзе гутарка аб тым, каб рабочыя свядома аддавалі свае фізічныя і разумовыя сілы не тым ідэям, якія служаць няволі, а тым, з якімі звязана перспектыва вызвалення, роўнасці, незалежнасці. Верш „Муляру" гэта форма апеляцыі, гэта заклік да еднасці, гэта зварот да рабочага сэрца і рабочага гонару.

Можам гаварыць аб пэўных супольных рысах, выступаючых у „Песні капачоў" і „Муляру". Праяўляюцца яны хаця б ужо ў так рэдкім у нашаніўскай літаратуры матыве рабочым, пралетарскім. Можа, якраз з гэтым матывам і звязана наватарства Гаруна. Гэта ж ён разам з Цішкам Гартным уводзіў у сялянскае рэчышча нашаніўскай паэзіі рамесніцкі і пралетарскі струмень. Зразумела, што ў вершах „Песня капачоў" і „Муляру" не мала і рознага, а можа нават супрацьстаўнага. „Песня капачоў" спяваецца самімі рабочымі, якія ўсведамілі карэнні сваёй нядолі, якія ведаюць, што трэба рабіць, каб вызваліцца. У „Муляры" ролю чалавека, які ведае, як трэба паступаць, выконвае сам аўтар. Гэта ён падказвае, заклікае, прарочыць. І таму можам гаварыць аб дыдактычным і маралізатарскім элеменце ў творы. Мэты вершаў аднак аднолькавыя. Імя гэтых мэт — непакорлівасць, бунтарнасць, вызваленне.



 



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ** — **Jerzy Grunwald**

**Заказвалі: Крыстына Уголік з Крапіўнага, Ірэна Кузьма з Піражкоў, Лена Стэпанюк і Крыстына Янчук з Барысаўкі.**

## ВЕР-НЕ ВЕР

# ФІГАВАЕ ДРЭВА

Характэрныя рысы людзей, што **нарадзіліся паміж 14-23 чэрвеня і 12-21 снежня** (паводле галійскага гараскопа).

Гэта далікатнае дрэва. Яно не надта прыгожае, але затое нельга яго не заўважыць.

Яно вельмі ўражлівае і не ўсюды адчувае сябе добра. Часамі мае комплексы. Патрабуе прастору і цяпла. У неспрыяючых умовах вяне. Цяжка яму перанесці жыццёвыя нягоды. Тады яно становіцца сумнае і ўсыхае. У такія перыяды яго абаронная сістэма слабее, і тады вельмі лёгка можна яго перамагчы.

У фігоўца вельмі развіта пачуццё сямейнасці. Ён адчувае неабходнасць пастаянна сустракацца са сваякамі, нават калі яны не ўмеюць гэтага ацаніць або не спаўняюць усіх яго спадзяванняў. Ён патрабуе стабілізацыі, нягледзячы на тое, што сам незанадта пастаянны. Ён лагодны і пачуццёвы. У яго часта бывае добры настрой, ён поўны радасці жыцця. Мала адпорны на спакусы.

Хаця непастаянны (найбольш, аднак, у думках), стараецца выконваць дакладна штодзённыя абавязкі. Можна на яго разлічваць.

Працуе, уласна кажучы, увесь час, аднак у глыбіні душы ён гультаяваты. Хаця ў яго поўна добрых намераў, то ўсё жыццё праходзіць на бясконцым змаганні з уласнымі слабасцямі. Ён рэаліст і часта нядрэнны прадпрыемца.

Фіговец — сапраўдны скарб для сваякоў і сям'і. Яго праца і старанні даюць плады. Пасадзі яго ў сваім агародзе і дбай пра яго. Не пашкадуеш. Ён належыць да дрэў, з якімі варта ўзяць шлюб. Не чакай, аднак, ад яго цудаў: ён не належыць да рамантычных каханкаў. Простыя пачуцці цэніць вышэй, чым якую-кольвек фантазію.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў

# Некалькі модных спадніц

Ад добрай спаднічкі патрабуем, перш за ўсё, каб не мялася. Таму лепш купіць альбо пашыць сабе адну даражэйшую спаднічку, чым дзве таннейшыя і горшага гатунку. Вельмі добра падыходзіць для гэтай мэты элана. Прыгожа будуць выглядаць з гладкай спаднічкаю блузкі ў кветачкі, палосачку ці ў клетку.

Спаднічку заўсёды варта рабіць на падкладцы. Тады яна не будзе мяцца, не будзе выпіхацца. Ды і наогул лепей ляжыць. Падкладку можна скроіць і сшыць разам са спаднічкай, або падшыць свабодна, сшываючы толькі ў таліі. Добра, калі колер падкладкі гарманізуе з колерам спадніцы.

Модныя, пашыраныя спадніцы вельмі добра падыходзяць таксама для паўнейшых жанчын, паколькі затушоўваюць занадта шырокія бёдры. Зразумела, тады яны не павінны быць занадта шырокія. Могуць гэта быць спаднічкі гладкія, расшыраныя клінамі, ці адной-дзвюма хвалдамі. Дзяўчаты могуць пашыць сабе спаднічку з большай фантазіяй. Моладзь наогул любіць на спаднічках розныя стэбноўкі, кішэні, спартыўныя паясы.

**Сяброўка**



**Мала, але цікава**

### ЛАЗЕР ШУКАЕ ЗЛАЧЫНЦУ

Няспынны рост злачыннасці прымушае крыміналістаў вынаходзіць усё больш дасканалыя сродкі для барацьбы з „джэнтльменамі ўдачы". На службу вышуку ставяцца навейшыя дасягненні сучаснай навукі і тэхнікі.

Апошняя навінка англічан у гэтай справе — выкарыстанне лазернага промня для выяўлення слядоў злачынцы. Супрацоўнікі лазернай лабараторыі ў Фельтхеме ўстанавілі, што калі ў лазерным промні сфатаграфаваць, скажам, падлогу, дываны кватэры, дзе пабываў злачынца, дык на здымках будуць зусім выразна відаць усе сляды. Гэтым спосабам можна выяўляць сляды і на грунце, калі інакш іх убачыць бывае немагчыма. Атрымаўшы дакладны адбітак слядоў злачынцы, дэтэктывы бяруцца за справу.




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Спаткала мяне няшчасце, якога ніколі не спадзявалася. І сорамна прызнацца, у чым справа. „Сэрцайка", я цяжарная. Ужо чацверты месяц ідзе. Сказала аб гэтым бацькам, страшэнна абурыліся, накрычалі, ды сказалі, што і знаць мяне не хочуць. Выплакаўшыся, я вярнулася ў горад, дзе жыву і працую. Неўзабаве прыехала маці. Кажа, пакуль яшчэ не кідаецца ў вочы, ідзі да лекара, перарывай цяжарнасць. А што ўжо позна, дык прыватна афармляй. За грошы ўсё зробяць. А то людзі ў вёсцы даведаюцца, уся вёска адно толькі і гаварыць пра цябе будзе. На вуліцу хоць не выходзь. Я і сама гэтага баюся, але яшчэ больш баюся, што ўжо позна, небяспечна ды і дзяцей жа потым можна ніколі не мець. Я аб гэтым калісьці чытала. А хлопец мой, як толькі сказала аб гэтым, пакінуў мяне. А гаварыў жа, што толькі мяне адну кахае і ніколі не расстанемся, заўсёды будзем разам. А хапіла толькі сказаць, што цяжарная і ўсё прапала. Не паказаўся больш. А калі аднойчы ўбачыў мяне на вуліцы, перайшоў на другі яе бок. І што ж мне цяпер рабіць? Парай!

**Юля з Бельшчыны**

**Юля!** У ніякім выпадку нельга перарываць табе цяжарнасці. Запозна ўжо на гэта. Цяжарнасць можна перарваць толькі да трох месяцаў і зрабіць гэта можа толькі лекар-спецыяліст. Але заўсёды небяспечна гэта для здароўя і пагражае няплоднасцю. Табе, Юля, астаецца адно выйсце — радзіць і выхоўваць дзіця. Бацькі, якія ж ніколі крыўды дзіцяці не жадаюць, пакуль што не ўяўляюць, да якой трагедыі магло б дайсці, калі б ты іх цяпер паслухала. Але ў будучыні, напэўна, памогуць дзіця выхоўваць. А на хлопца, бадай, няма чаго спадзявацца. Так часта бывае, што як толькі дзяўчына зацяжарыць — канчаецца і сяброўства, і каханне. Памятайце, дзяўчаты, аб гэтым.

**„Сэрцайка"**




Паматаўшы галавой, Валока вытрас з вушэй пясок і ўчуў, як глухімі ўздыхамі з-пад зямлі данесліся сюды гукі вайны — выбухі, далёкі маторны гул і глухаватыя кулямётныя чэргі. Гэта насцярожыла і заклапаціла; падумалася, што трэба хутчэй вылазіць, бо рота, мусіць, ужо адышла далёка. Баец падняўся на ногі і, спатыкаючыся, пабрыў было да прыступак. Там ён агледзеўся, убачыў і выцягнуў з-пад шчэбня свой згублены аўтамат, рукавом выцер яго ад пылу. Тое, што знайшлася зброя, трохі супакоіла яго; чалавек аддыхаўся і адчуў, што болей за іншае баліць плячо. Упершыню ён успомніў тады пра немца. Вядома, таму ўжо капец; прыбіла, напэўна, у куце: так, дзякаваць богу, не давялося і душыць, падумаў Валока. Да немца, мёртвага, у байца злосці ўжо не было.

Угары зноў прыглушана загрукацелі чэргі, то наш „Дзягцяр"; Валока пазнаў бы яго дзе хочаш. Гэта ўзбадзёрыла байца. Прыгнуўшы галаў, ён абмацаў навіслую над прыступкамі глыбу, паднатужыўшыся, паштурхаў, аднак нічога не кранулася. Мусіць, зверху яго тут добра прываліла нечым. Але як жа тады выкараскацца? Пакутуючы ад болю, ён сышоў з прыступак, утледзеўся ў змрок пакарэжанага падстолля. Нідзе ніякае дзіркі, ніякай адтуліны, здатнай для таго, каб можна было пралезці. Зрушваючы абломкі цэглы, баец ускарабкаўся на кучу друзу пад промнем і ў другім месцы памацаў рукамі скасабочаную патрэсканую столь. Адзін кавалак бетону кратаўся, але толькі ледзь-ледзь — хоць і быў разламаны, ды ўсё ж трымаўся, пэўна, на арматуры. Валока зазірнуў у шчыліну, але там, апроч добра асветленых на зломе тоўстых яе краёў, нічога не было відаць.

Што ж рабіць, — як вылезці, няўжо няма ніякага ходу? А можа трэба крыкнуць, паклікаць на дапамогу? А калі тут паблізу немцы? Хто ведае, ці ўтрымалі нашы той сквер? Такая бамбёжка, мусіць, дала немцам якой карысці. Ён злез з друзу, зазірнуў у цёмны куток збоч лесвіцы — скрозь пыльнае цаглянае завалле. Колькі трэба перакапаць яго, каб дабрацца да якой праломіны! Дык што ж рабіць?

Раптам на кучы цэглы і ламачча варухнуўся кавалак цагліны. Пасля, крануты аднекуль знутры, заварушыўся друз і яшчэ некалькі кавалкаў ссунулася ўніз. Валока здрыгануўся, сумеўся і ажно прыгнуўся ўглядаючыся. „Вось табе і на!" — без страху, поўны аднаго толькі здзіўлення, сказаў ён сабе. І ў той жа час згледзеў край чорнага акаймаванага галуном пагона, засыпанае глінай плячо мундзіра, і раптам нечакана акрэсліўся дагэтуль не заўважаны ў паўзмроку твар немца. Яго немаладыя, вільготнага бляску вочы чамусьці вельмі напружана, быццам збянтэжана глядзелі на байца.

Валока ўнутрана сцяўся („Ах ты, пракляты, уцалеў!") і левай рукой падхапіў ствол аўтамата. Але былы страх знік, цяпер баец не дужа і баяўся гэтага недадушанага ворага. Немец, аднак, не варушыўся, яшчэ трохі паўзіраўся ў байца і затым тузануўся з ламачча. Твар яго пры гэтым скрывіўся ад болю, вораг прастагнаў і немачна заплюшчыў вочы.

„Забіць!" — бліснула думка. Валока прывычна скіраваў на ворага аўтамат, гатовы вось-вось націснуць на спуск; гэта было так лёгка зараз і так проста. Але, мабыць, гэтая лёгкасць і прытрымала яго рашучасць. Немец зноў аслабела заварушыўся, намагаючыся вызваліцца з-пад абломкаў. „Ну лезь, паспрабуй! Падыдзі! — казаў сабе баец, пільна назіраючы за кожным аслабелым рухам ворага. — Вылезеш, тут жа і ляжаш!"

Гэта быў чацвёрты вораг, які трапіў яму пад аўтамат. Першага ён падстрэліў у сорак трэцім пад Прохараўкай з акопа, у часе нямецкай атакі. Той ўпаў тады на траву, павярнуўся, неяк здзіўлена паглядзеў на Валоку і сціх. З другім давялося трохі пазмагацца. Баец даганяў яго ў акопе, той страляў з парабелума, параніў яго сябра Макіўчука, — то быў нейкі афіцэр у фуражцы з какардай, і Валока, загнаўшы яго



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Калектыў у Грыгораўцах

У Грыгораўцах арганізаваўся новы інструментальны калектыў „Васако". Вучань беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім, сын дзяжурнага на станцыі Грыгораўцы, Вячаслаў Грайко арганізаваў гэты сучасны калектыў. У ім тры асобы: Вячаслаў Грайко — гітара, Валодзя Мартынюк — гітара, Мікалай Анапюк — перкусія. Калектыў мае ўласныя інструменты. За кароткі час ужо спадабаўся. Іграе на вечарынах і вяселлях у сваёй і навакольных вёсках. У будучым годзе прыме ўдзел ў аглядзе музычных калектываў.

**Восень**

## Растуць рады

Яшчэ ў месяцы сакавіку шудзялаўская арганізацыя ЗБоВіД налічвала 104 члены, а зараз у ёй ужо 120. Рост збавідоўскіх радоў звязан з увагай, якую ў апошні час ветэранам апошняй вайны ўдзяляе партыя і ўрад. Але ёсць і шмат такіх, якія даўно павінны быць членамі ЗБоВіД, а не ўступілі ў рады арганізацыі па несвядомасці. Напрыклад, Рыгор Турыч з вёскі Гураны. Ён пытаецца, ці былыя партызаны маюць права быць членамі ЗБоВіД. „Я, — кажа, — быў у атрадзе імя Кастуся Каліноўскага, маю спраўку ад камандзіра атрада, маю многа знаёмых з Гарадка, якія могуць пацвердзіць, што быў я ў партызанах, але я не член ЗБоВіД".

Такі чалавек даўно павінен быць збавідоўцам.

**Т. К.**

## Самалёты ў ПГР

У ПГР Геранімова большасць мінеральных угнаенняў рассяваюць самалётам. Праца ідзе вельмі спраўна. Каб рассеяць 1200 кг угнаення (пагрузка, пералёт 4 км і высеўка), трэба ўсяго 15 мінут.

**Мікола Краўчук**




### ЧАМУ ТЫ...

*Чаму ты*
*нічога не кажаш,*
*калі цябе*
*аб нечым пытаю...*
*Чаму ты*
*ўздыхаючы плачаш,*
*калі цябе*
*я хачу пацешыць...*
*Чаму ты*
*ад мяне ўцякаеш,*
*калі цябе*
*ўбачу недзе побач..*
*Чаму ты*
*мяне праклінаеш,*
*калі цябе*
*я вельмі кахаю.*

**Жэня Аўсенюк**

ў тупік, прыкалоў штыхом. Трэцяга расстраляў там, у пад'ездзе. Цяпер вось гэты.

Але страляць яго ў доле было неяк няёмка. Валока чакаў, калі ён вылезе і што будзе потым.

Толькі вылезці яму было нялёгка. Немец патузаўся плячыма, разварушыўшы цагліны, выцягнуў з-пад завалля руку, пакрывіўся тварам ад болю. Затым застагнаў, умольна зірнуў на байца і зноў бяссільна абвяў.

„А, даняло, сабака!" — прабурчэў Валока, усё напружана сочачы за ім. Але аўтамат ён апусціў. Немец пакутна торгаўся, разварушаючы драбязу і ўсё не могучы выдраць ногі, прываленыя нейкай бетоннай глыбай. Валока яшчэ пастаяў насупраць, назіраючы за марнымі намаганнямі ворага. Мусіць ад таго, што немец страціў ужо былую небяспеку для яго, паволі асядала ў байца злосць і мякчэла, адступала кудысьці рашучасць забіць. Немец застагнаў, апусціў голаў, кусаючы вусны. „Пераламаны ногі, ці што?" — падумаў Валока. Бачачы, што немцу не выбрацца без дапамогі, ён неяк не ў лад са сваім пачуццём ступіў бліжэй і, упершыся абцасам, адваліў убок вялізны пляскаты кавалак сцяны.

**(Працяг будзе)**

## Майскія чыны моладзі

Майскія чыны моладзі групы сельскагаспадарчых школ у Бельску Падляшскім (Тэхнікум сельскагаспадарчага рахункаводства, Сельскагаспадарчы тэхнікум, Асноўная сельскагаспадарчая школа, Завочны сельскагаспадарчы тэхнікум) далі нашай краіне многа ашчадных залатовак. У пачатку мая частка моладзі ачышчала поле ад каменняў. Поле гэтае належыць да ПГР Рудка каля Бранска. Цяпер на ім расце пшаніца, і ў час жніў жняяркі не будуць псавацца ад каменняў і карчоў, якія даўней былі на полі. Моладзь працавала тут 120 гадзін.

У палове мая частка моладзі працавала пры лесапасадцы каля вёсак Палічна і Апака Вялікая. Садзілі яны яліну і іншыя дрэўцы. Тут моладзь працавала 330 гадзін.

Амаль кожны дзень моладзь прыбірала і свой панадворак каля школы-інтэрната. Садзілі кветкі, касілі траву, раўнялі зямлю, рыхтавалі спартыўную пляцоўку, на якой цяпер праводзяцца спартыўныя гульні. Цяпер каля школы-інтэрната прыгожа і весела.

**Мікалай Няплоха**

## Рыхтуюцца да чэрвеньскіх гульняў

У будынку сельскагаспадарчых школ у Бельску Падляшскім адбыўся з'езд візітатараў і кіраўнікоў сельскагаспадарчай асветы і дзеячоў школ, якімі заведуе Міністэрства сельскай гаспадаркі і ЦРС у Польшчы. Тэмай з'езду была падрыхтоўка моладзі гэтых школ да VI агульнапольскіх спартыўных гульняў, якія будуць праходзіць у Беластоку ад 20 да 22 чэрвеня гэтага года. Кіраўнікі і візітатары падрабязна пазнаёміліся з праграмай гульняў і дасягненнямі моладзі сельскагаспадарчых школ у спорце.

**Мікалай Няплоха**

## Бельскія школы збіраюць макулатуру

Школы горада Бельска збіраюць нямала макулатуры, асабліва сярэднія школы. І так, Агульнаадукацыйны ліцэй імя Т. Касцюшкі здаў 1.919 кг, а калектыў эканамічных школ 2.200 кг. Беларуская пачатковая школа нумар 3 здала 2.200 кг, пачатковая школа ў Аўгустове 400 кг, школа ў Кнарыдах 300 кг. Медыцынскі ліцэй здаў 100 кг.

**(мм)**

## На лузе ў Тапалянах

Ужо некалькі год падрад на лузе ў Тапалянах плавае лебедзь. Ён заўсёды прылятаў сюды адзінока, ды ўвосень. Сёлета прыляцеў у пары і вясною — у палавіне красавіка. Людзі жартам гавораць, што лебедзь ажаніўся і, пэўна, надумаў тут пасяліцца на пастаяннае жыхарства.

**Мікола Краўчук**

## Новая мясабойня ў Крынках

Мясабойня ГС у Крынках была ў рамонце. Больш, як два гады ў краме было малавата мясных вырабаў. ГС прывозіў тавар пакрысе то з Дубровы, то з Саколкі, а нават з Беластока. Цяпер новая мясабойня ў Крынках багата абсталявана — мае вялікія халадзільнікі. Цэлыя штукі свіней і кароў вісяць у халадзільніках.

Кіраўніком мясабойні з'яўляецца стары працаўнік — Леанчук.

**Т. К.**

## Пажар у Чыжах

На Георгія ў Чыжах быў вялікі фэст. Вечарам адбывалася гучная забава ў мясцовай святліцы. Вясёлы настрой весела гуляючых перабіў трывожны гул пажарнай сірэны. У вёсцы ўспыхнуў пажар. Гарэла клуня Васіля Пракапюка. У гашэнні пажару прынялі ўдзел дзве машыны мясцовай пажарнай каманды і іншыя.

І яшчэ тут аб адным хачу сказаць. У многіх пажарнікаў ёсць дрэнная прывычка. Калі з'едуцца на пажар, дык ругаюцца, як шаўцы, аж вушы пухнуць у людзей. Сярод людзей ёсць малыя дзеці, якія слухаюць, раззявіўшы раты. Гэткая „кухонная лаціна" не надта прыдаецца пры пажары і добра было б пажарнікам ад гэтага адвыкнуць. Гэта ж проста бескультур'е. А культура абавязвае ўсіх, таксама камендантаў пажарных каманд. Мо паправіцеся?

**Я. М.**

## Дарога ў Кнаразы

Дарога ў Кнаразы вельмі дрэнная. Калі толькі пачнецца дождж, дык па дарозе ў Кнаразы не праедзеш. Закамандавалі рабіць дарогу чынам — ад Кнаразоў да Храбалоў. Пайшлі рабіць жыхары Кнаразоў і суседніх вёсак. Людзі рыдлёўкамі капалі равы па абодвух баках дарогі, а трактарысты трактарамі вазілі пясок. Навазілі пяску, але не раскідалі яго. Той пясок так і ляжыць у горбах.

Хто яго ведае, калі гэтую дарогу давядуць да належнага парадку.

**Жэня Андрэюк**

## Электрычныя пастухі

Добрыя гаспадары з кожным годам уводзяць у свае гаспадаркі розныя навіны. Напрыклад, у Патоцы ўжо некалькі год карыстаюцца электрычным пастухом гаспадары: Аляксандр Валасэвіч, Казімір Бэкіш, а ў апошні час такога пастуха прыдбаў сабе Аляксандр Раманюк. На адным участку, абгароджаным электрычным пастухом, гаспадар можа пракарміць цэлы сезон 8-10 кароў.

**Мікола Краўчук**

## Пераможцы з Навасад

У Гайнаўцы ў святліцы „Гаймахлесу" адбыўся турнір на тэму культуры Савецкага Саюза. Удзел прынялі дружыны з клубаў „Руху".

Першае месца заняла дружына з Навасад у складзе: Людміла Антанюк, Тамара Врублеўская і Коля Бушко. Пераможцы атрымалі ўзнагароды. Пасля турніру адбываліся пры самавары выступленні спевакоў-аматараў.

**Раса**

## ПОМНІК — ТАНК

З выпадку XXX гадавіны перамогі над фашызмам у Гайнаўцы быў адкрыты помнік — танк № 210, які, як адзін з першых, увайшоў у Гайнаўку, калі Савецкая Армія вызваляла горад. На помніку ёсць мемарыяльная дошка з надпісам, што помнік гэты прысвячаецца ахвярам барацьбы з фашызмам. Гэта першы помнік у Гайнаўцы. Ён стаіць у парку паблізу вуліц 1 Мая і Вызвалення.

**Яша**

## Які фільм?

У „Ніве" з 11.V.75 г. „Цюльпан" пісаў, што ў Новаберазове ішлі здымкі да фільма. На жаль, яго інфармацыя мае хібы. Вось, напрыклад, невядома нават, які загаловак гэтага фільма. Таму хачу напісаць пра яго нешта больш.

Фільм быў рэалізаваны тэлевізійнай кінастудыяй „Полтэль", апрача Новаберазова, яшчэ ў Гайнаўцы і Белавежы. Яго загаловак „Дамы ў дажджы". Сцэнарый паводле рамана Канстанціна Паустоўскага „Дажджлівае світанне" напісаў Станіслаў Граховяк — выдатны польскі паэт і празаік. Пастаноўшчыкам быў Рышард Бэр, аўтар фільмаў „Дзе трэці кароль?", „Кашэбэ". Здымкі — Яцка Карцэлі. Фільм будзе дэманстраваць польскае тэлебачанне ў канцы г.г.

**П. Байко**

## Трагічны выпадак

Вечарам на другі дзень Вялікадня на вуліцы ў Чыжах здарыўся трагічны выпадак. На жыхара вёскі — 45-гадовага Рыгора Ягадніцкага наехаў уласнай аўтамашынай маркі „Фіят" малады хлапец з вёскі Крывая. Цяжка паранены Рыгор Ягадніцкі памёр у гайнаўскім шпіталі.

**Я. М.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ПРА ГАЙНАЎСКУЮ ЛАЗНЮ

**Адказвае:**

**Hajnowskie Zakłady Przemysłu Drzewnego im. J. Marchlewskiego w Hajnówce.**

W odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczoną w Nr 8 (991) „Niwy" z dnia 23.II.1975 r., a przesłaną przy piśmie Redakcji z dnia 23.IV.75 r. dotyczącą niedociągnięć w pracy łaźni tut. Zakładów, uprzejmie wyjaśniamy:

Łaźnia HZPD jest czynna w środy, czwartki, piątki i soboty każdego tygodnia z wyjątkiem świąt, przypadających w tych dniach z tym, że środy przeznaczone są na kąpiel młodzieży szkolnej — dziewcząt, czwartki dla młodzieży szkolnej — chłopców, piątki dla kobiet i soboty dla mężczyzn.

Wyposażona jest w następujące urządzenia kąpielowe: 14 kabin z natryskami, 4 pomieszczenia z wannami oraz pomieszczenie przeznaczone na parzelnię z piecem parzelnianym.

Natryski i wanny nie są uzależnione od palenia pieca parzelnianego i można z nich korzystać dowolnie, zgodnie z podanym grafikiem, gdyż woda do tych urządzeń jest nagrzewana bezpośrednio w elektrociepłowni Zakładów. Natomiast w celu uruchomienia parzelni (rzymska łaźnia), należy palić piec parzelniany przez 12 godz., ażeby znajdujące się wewnątrz pieca kamienie nabrały odpowiedniej temperatury, a po zalaniu ich zimną wodą wytwarzały suchą parę.

W artykule jest wyłącznie mowa o parzelni, która rzeczywiście w okresie zimy przez dwie soboty nie była czynna, lecz nie z uwagi na brak opału, ale w związku z przebudową pieca parzelnianego i malowaniem tegoż pomieszczenia zgodnie z poleceniem Powiatowej Stacji Sanitarno-Epidemiologicznej w Hajnówce. Pozostałe urządzenia, jak natryski i wanny, przez cały czas były czynne. Obecnie systematycznie co drugą sobotę jest czynna parzelnia, a jednocześnie rozważa się możliwość udostępnienia korzystającym z parzelni w każdą sobotę.

Z-ca Dyrektora
d/s Pracowniczych
mgr inż. Janusz Staniszewski

## ДНІ САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ



*У клубе сяляніна ў Тарнопалі сустрэча з паэтам Алесем Барскім.*

Дні савецкай культуры на Гайнаўшчыне праходзілі вельмі багата. Наведаў нас незабыўны калектыў беларускага тэатра імя Я. Купалы. Было падрыхтавана і праведзена многа конкурсаў, мастацкіх выступленняў, сустрэч з слаўнымі людзьмі, фотагазетак, выставак.

Беларускія калектывы і пісьменнікі ў Польшчы ўключыліся таксама. Спявала „Белавежа", сустракаўся з чытачамі паэт Алесь Барскі. У час многіх сустрэч было прададзена 658 экземпляраў зборнікаў Алеся Барскага, якія ён падпісваў. Усюды людзі запрашалі паэта яшчэ прыязджаць да іх.

Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў таксама сустрэчы з журналістамі „Нівы".

**В. Б.**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Юозіс Булота

## ГАДЗІННІК

Жонка Янкайціса знайшла на тратуары гадзіннік. Падняла, паслухала — цікаў. Раменьчык, стрэлкі — усё ў парадку.

Прыйшла дамоў і склікала сямейную нараду. Янкайціс, галава сям'і, узяў гадзіннік у рукі, агледзеў яго з усіх бакоў і сказаў:

— Нядрэнны.

— Тата, купі мне такі, — азваўся малодшы сын, вучань другога класа.

— Пачакай, калі гаспадар не знойдзецца, — атрымаеш яго, — заспакоіў бацька.

— Як гэта „не знойдзецца", — запратэставала Янкайцене. — Як ты выхоўваеш дзіця? Трэба змясціць у газеце аб'яву...

— А колькі гэта каштуе? — пацікавіўся Янкайціс.

— Нічога. Я даведвалася.

Аб'ява была надрукавана ў газеце. Спакойны рытм жыцця сям'і раптам быў парушаны. Тэлефон званіў без перапынку.

— Жаночы гадзіннік ці мужчынскі? — пытаўся дзявочы голас.

— Мужчынскі, — адказваў Янкайціс.

— Напэўна, мой... А які раменьчык?

— Чорны, скураны...

— Так, гэта мой!..

Янкайцене вырвала трубку з рук мужа, гаворачы:

— Ідзьёт. Такім чынам першы прайдзісвет забярэ ў цябе каштоўную рэч! Няхай сама гаворыць, што гэта за гадзіннік...

Янкайціс махнуў рукой:

— Гавары з ёй сама...

— Алё! Ваш гадзіннік залаты? — крыкнула ў трубку Янкайцене.

— Канечне, залаты, — узрадаваўся голас.

— Тады гэта не ваш, — суха абарвала яго Янкайцене. — Бачыш, з-пад носа забрала б гадзіннік. Аферыстка.

Наступны, хто званіў, быў больш салідны. Адразу сказаў, што згубіў гадзіннік паўгода таму назад, ды і не ў Вільнюсе, а ў Палангзе, калі быў у адпачынку.

— Ну, калі так, то гэта не мой гадзіннік. Хацеў бы, аднак, падзякаваць вам.

Прыемна паразмаўляць з сумленнымі людзьмі.

Пасля беспрабойна званілі мужчынскія галасы, сцвярджаючы, што гадзіннік згублены менавіта ў такі і такі дзень, і патрабавалі ў Янкайціса дакладнай інфармацыі.

Янкайціс страціў веру ў людзей.

— Банда махляроў! — абураўся ён. — Да паўночы не пакідаюць чалавека ў спакоі. Шукаюць тое, чаго не згубілі.

На наступны дзень у кабінеце Янкайціса сабраўся ўвесь персанал на чале з эканамістам.

— Учора ўвесь вечар думалі, што гэта за знойдзеная рэч, але хіба ад цябе што-небудзь даведаешся? — наракаў начальнік аддзела.

У той вечар тэлефон маўчаў, як закляты. Толькі пасля паўночы Янкайціса падняў з ложка доўгі трывожны званок.

— Я гавару з Шаўляй, — пачуў ён у трубцы далёкі голас. — Гэта вы знайшлі гадзіннік?

— Так, я.

— Вельмі добра. Я падумаў, што можа і мой акардэон знойдзеце. Згубіў яго на калгасным вяселлі. Гляджу — гадзіннік на руцэ, а акардэона няма, як скрозь зямлю праваліўся... — тут у трубцы штосьці трэснула, і размова перарвалася.

Нарэшце праз тыдзень пазваніў гаспадар гадзінніка, апісаў сваю рэч і назваў адрас.

— Вялікае дзякуй. А гадзіннік можаце пакінуць сабе. Са злосці выкінуў яго. Псаваўся і псаваўся.

Янкайціс плюнуў і адаслаў гадзіннік па пошце.

*З літоўскай мовы пераклаў*
*У. Струміла*





*Без слоў.*

# НІЎКА



*— Куды паехаць? — Што надзець?*

### КРУТАДУХ

*Да дзяўчат і маладух*
*Вельмі ласы крутадух,*
*Хоць у хаце крутадуха*
*І свая ёсць маладуха.*
*Хлюставаны хітры дзед*
*За дзяўчынкай смыча ўслед,*
*На вісках бялее срэбра,*
*Ды штурхае чорт пад рэбра.*
*Дзе ж ты сорам свой падзеў?*
*Крутадух, эх, крутадух,*
*Лепш бы ў хаце пасядзеў,*
*Ой, нячысты дух...*

Пятро Сушко

### ПРЫЧЫНА

— Чаму дзяўчыны-спартсменкі бегаюць усё-такі павальней ад мужчын?

— Выключна з-за какецтва, каб публіка іх лепш разглядзела.



### НІЧОГА ДАДАЦЬ

Суддзя: — Што вы можаце яшчэ дадаць да свайго апраўдання?

Селянін: — Нічога, пане суддзя, бо апошні чырвонец аддаў пісару.

## МІНІВЕРШЫ

### ДВУРУШНІК

Падклаў пад прыяцеля „міну",
А робіць лагодную міну.

*І. Курбека*



**...Ён лёгка пераносіў няўдачы з месца на месца.**

**...Кола яго інтарэсаў падобнае да абруча: замыкалася навокал піўной бочкі.**

### РАБОТА ЁСЦЬ

Маці корпаецца каля пліты. У другім пакоі — непаседлівыя блізняты. Ціха. Нават падазрона ціха. Маці і пытае:

— Хлопцы, што гэта ў вас там так ціха. Зноў нешта паліце?

— Не, мама, не палім.

— А што вы робіце?

— Рэжам.

— Што рэжаце?

— Я твае панчохі, а Лёнька — чаравікі...

### НЕ БРАШЫ

Сустрэліся за чаркаю двое суседзяў. Адзін і кажа:

— Ты ведаеш, Іван, калі я ўчора ехаў другім нумарам трамвая па вуліцы Зялёнай, дык насупраць мяне сядзеў пісьменнік Леў Талстой.

Сусед падумаў і сказаў:

— Ведаеш што? Не брашы! Другі нумар па вуліцы Зялёнай не ходзіць!



*— Давай па-добраму — без штрафу, а я за цябе двойчы памалюся!*

### КАЛІ Б...

— Калі б мне твой розум... — гаворыць жонка мужу.

— Дык што б тады было? — здзіўлена пытае муж.

— І я б цябе дурнем назвала!

### ЦЯЖКА ЗНАЙСЦІ

Недалёка ад берагу боўтаецца ў вадзе нейкі чалавек.

— Што ты шукаеш? — пытае прахожы.

— Ды верша ўчора паставіў і ніяк не магу знайсці.

— А прыкмету нейкую памятаеш?

— Ды памятаю: на беразе пасласся лысая кабыла — я якраз супраць яе і паставіў верша.

### ВАЖНА

Малады шатландзец прыйшоў на пошту і паслаў тэлеграму дзяўчыне, прапануючы ёй выйсці за яго замуж. Ён вырашыў дачакацца яе адказу і цэлы дзень пратарчаў на пошце. Адказ прыйшоў пасля поўначы.

— Вы ўпэўнены, што не памыліліся ў выбары? — пытае тэлеграфіст. — Яна, здаецца, не спяшалася з адказам.

— Наадварот, гэта вось якраз і важна. Яна чакала начнога ільготнага тарыфа.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Г. Бараноўскай змяшчаем песню з рэпертуару Анны Герман.

## TAŃCZĄCE EURYDYKI

słowa: E. Rzemieniecka
i A. Wojciechowska
muzyka: Katarzyna Gärtner

W kawiarence na rogu
każdej nocy jest koncert.
Zatrzymajcie się w progu,
Eurydyki tańczące.
Zanim świt pierwszy promień
rzuci smugą na ściany,
niech was tulą w ramionach
Orfeusze pijani.

Płyną gwiazdy jak stulecia,
noc kotary mgły rozwiesza,
na tańczące Eurydyki
koronkowy rzuca szal.
Rzeka śpiewa pod mostami,
tańczy, krzyczy cień latarni,
o rozwarte drzwi kawiarni
grzbiet ociera czarny kot.

Jakie ty masz dziwne usta, Eurydyko!
Jakie oczy mroczne, puste, Eurydyko!
(Eurydyko!)

Już niedługo na widnokrąg
świt różowy spełznie wolno,
mgły rozwieją się jak przędza,
zbledną światła, pryśnie czar.

Wiatr się zerwał w zaułkach,
trąca drzewa, jak struny.
Czy to śpiewa Orfeo,
czy to drzewa tak szumią?
Na wystawie w drogerii
czarny kot cicho wraca,
zanim kogut zapieje,
musi stopić się w zapach.

Rzeka szemrze pod mostami,
znikł już szary cień latarni,
wchodzą ludzie do kawiarni,
na ulicach zwykły gwar.
A wiatr tańczy ulicami,
wiatr kołuje jak pijany,
i rozwiewa na gałęziach
z pajęczyny tkany szal.

Jakie miałaś dziwne usta, Eurydyko!
Jakie oczy mroczne, puste, Eurydyko!
(Eurydyko!)

A wiatr tańczy alejami,
wiatr kołuje jak pijany,
mgły rozwiały się jak przędza,
został tylko (został tylko) czarny kot.

### ШАНЦ

— Дзе касір?

— Ён пайшоў на скачкі.

— Як? У рабочы час?

— Так. Ды гэта яго апошні шанц звесці баланс.

## КУРЁЗЫ

### ПРЫГОЖА І... СОЛАДКА

Мексіканскі інстытут цукру, акрамя даследаванняў, займаецца таксама арганізацыяй выставак тыпова мясцовага мастацтва — скульптур з... цукру. Гэтыя творы ўжо экспанаваліся ў многіх краінах свету. Узначальвае інстытут Марытэ Альварада. Яна з дзяцінства захаплеецца вырабам розных фігурак з „салодкага матэрыялу". Яе кампазіцыя „Аліса ў краіне цудаў" была адзначана нават мастацтвазнаўчым друкам. У Мексіцы выпушчана некалькі кніг, прысвечаных цукровым упрыгожанням.

### ТЭЛЕКОТ

Знік кот Артур — зорка англійскага рэкламнага тэлебачання. Кот рэкламаваўся фірмай, якая выпускае кашачыя кансервы, пажыраючы іх перад экранам. Атрымлівалася гэта ў яго пераканаўча. Кансервы знаходзілі ўсё больш попыт. Паколькі на Артуры рабіліся немалыя грошы, то яго знікненне бізнесмены расцанілі як цяжкі ўдар па іх фінансавых інтарэсах.

Быў аб'яўлены ўсеанглійскі пошук, прапаноўваліся вялікія прэміі тым, хто верне ката гаспадарам. На працягу некалькіх тыдняў пра Артура пісалі ўсе газеты. Калі тэлезорка нарэшце знайшлася, ёй прызначылі спецыяльную дыету, прыставілі ўрача.

Кошт Артура — тысяча фунтаў стэрлінгаў. Столькі ў Англіі каштуе легкавы аўтамабіль.

### ГАНДАЛЬ ПАДНАЧАЛЕНЫМІ

„За парушэнне правіл гандлю падначаленымі, дырэктару аб'яднання харчовых тавараў тав. Шаўчуку аб'яўлена суровая вымова".

*(З пастановы)*



**Грамадзяне! Не стойце папярок горла!**